# Цяжкія часы нашых прадпрымальнікаў

## Прадпрымальніцтва Беларусі можа быць задушанае расійскімі таварамі і паслугамі

**Прэзідэнт Беларускага і Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і работадаўцаў, віцэ-прэзідэнт Еўрапейскага савета па малым бізнесе, вядомы беларускі эканаміст Уладзімір Карагін адказвае на пытанні карэспандэнта НАШАЙ СВАБОДЫ.**



***— Спадар Уладзімір, якія асноўныя праблемы, на Ваш погляд, стаяць на сённяшні дзень перад беларускімі прадпрымальнікамі?***

— Думаю, што зараз прадпрымальніцтва Беларусі перажывае цяжкі, ды, мабыць, і найбольш драматычны перыяд свайго развіцця. З аднаго боку, існуе шмат дзеючых суб'ектаў гаспадарання, дастаткова ў Беларусі і актыўных людзей, якія хочуць адкрыць ці працягваць сваю ўласную справу, працягваецца працэс прыватызацыі, прыняты Закон аб прадпрымальніцтве, уступіў у дзеянне новы Грамадзянскі кодэкс РБ, пачаў дзейнічаць і новы Працоўны кодэкс.

Усё гэта абнадзейвала, калі б не другі бок справы — цэлы шэраг праблемаў. Большасць з іх злучаная з агульным станам макраэканомікі Беларусі, неўпарадкаванасцю шматлікіх пытанняў заканадаўства, вельмі нізкай пакупной здольнасцю насельніцтва. Калі большыня беларусаў зарабляе 40-50 долараў у месяц, то як спадзявацца, што яны будуць набываць, напрыклад, якасную мэблю, ды і наогул аддаваць грошы на рэчы не першай неабходнасці? Таму мара любога прадпрымальніка – каб у краіне было як мага больш людзей з высокім заробкам.

У еўрапейскіх краінах, дзе ідэальныя ўмовы для развіцця прадпрымальніцтва, сярэдні клас складае 50-70% насельніцтва, і менавіта гэта стварае магчымасці для вядзення нармальнага бізнесу. Дрэнна адбіваецца на прадпрымальніцтве і адсутнасць замежных інвестыцыяў, для іх у нас вельмі неспрыяльныя ўмовы, галоўная з якіх – палітычная і эканамічная нестабільнасць. Калі абагульніць, дык атрымаецца, што грошай няма ні ў насельніцтва, ні ў дзяржавы, ні ў прадпрыемстваў. У гэтай сітуацыі канкурэнтназдольны прадукт проста не можа быць створаны, бо для яго стварэння прадпрыемству ці прадпрымальніку неабходна ўкараніць новыя тэхналогіі, што патрабуе шмат сродкаў.

Калі казаць пра беларускае заканадаўства ў дачыненні да прадпрымальнікаў, то галоўныя яго хібы — неадрэгуляванасць прымянення і даміраванне рэпрэсіўных формаў уздзеяння на прадпрымальніцтва. Прадпрымальнікі ў нас рызыкуюць усім: сваёй маёмасцю, здароўем, нават і жыццём. Нядаўна я падлічыў, што за апошні год мне давялося быць на 23 пахаваннях дырэктараў, прэзідэнтаў кампаніяў, фірмаў, якія памерлі ва ўзросце 45-50 гадоў, не вытрымаўшы каласальнай псіхалагічнай нагрузкі.

***— Якія акты беларускага заканадаўства найбольш ускладняюць жыццё прадпрымальнікам?***

— Згодна з Грамадзянскім кодэксам, статутны фонд можа складаць не меней за 3.000 мінімальных заробкаў, а гэта каля 7.500 долараў, што ва ўмовах Беларусі вельмі шмат. Ды і памер мінімальнага заробку ўвесь час мяняецца – у красавіку гэта адна лічба, у траўні – іншая, а якая яна будзе ў верасні – не ведае ніхто. Гэта значыць, што ўстаўны фонд павінен увесь час папаўняцца, але так хутка зарабляць грошы немагчыма. Для многіх прадпрыемстваў гэта стала невырашальнай праблемай. Шмат каго пужае і дэкрэт № 40, згодна з якім без суда можа канфіскоўваца маёмасць, якая, на думку ўладных прадстаўнікоў, звязанае са злачыннай дзейнасцю.

Псуюць жыццё прадпрымальнікам і шматлікія праверкі. Галоўнае пытанне ў тым, як яны адбываюцца. Часцей за ўсё канфіскоўваюцца дакументы, адцягваецца ўвага дырэктара на добрыя тыдні два, а ў малым прадпрыемстве ўсё гэта вядзе да вялікіх стратаў, бо там адзін чалавек фактычна працуе за двух-трох. Акрамя таго, ужо выпрацавалася своеасаблівая ацэнка крытэрыяў працы супрацоўнікаў кантрольных органаў: калі пасля праверкі імі не знойдзена ніякіх парушэнняў, значыць, іх проста купілі. Таму кожны з іх і стараецца знайсці як мага больш парушэнняў, часта падводзячы пад гэтую катэгорыю зусім іншыя рэчы. Тым больш, што дзяржаўны бюджэт разлічвае на сродкі ад штрафных санкцыяў на прадпрымальнікаў.

Ёсць у Беларусі яшчэ даволі своеасаблівая форма скрытага вымагання. Прыходзіць да прадпрымальніка ліст з просьбаю дапамагчы сродкамі ў будаўніцтве, напрыклад, новага РАУСа. Усе разумеюць, што калі адмовіцся, то ёсць небяспека не дачакацца станоўчага рашэння свайго пытання. Таму большасць згаджаецца, выдаткоўвае грошы, часам адмаўляючы свайму прадпрыемству ў самым неабходным, а праз некаторы час гэта адмоўным чынам непазбежна адгукнецца нацыянальнай эканоміцы.

***— Спадар Уладзімір, многія прадпрымальнікі скардзяцца на непамерна вялікую арэндную плату. Наколькі гэта сур'ёзная праблема, на Вашу думку?***

— Любы нармальны чалавек скажа, што стаўка арэнднай платы павінна быць не болей 50 цэнтаў за квадратны метр, а не 10 долараў, як цяпер. Пры аплаце ў памеры 10 долараў за тры гады прадпрымальнік аплачвае кошт новага памяшкання. І гэта пры тым, што большасць будынкаў, якія здаюцца ў арэнду, — старыя, непрыдатныя для размяшчэння сучаснага офіса, без аховы, вентыляцыі, затое з магчымасцю быць абкрадзенымі ў любы момант. Калі б яшчэ грошы з арэнды ішлі на падтрымку прадпрымальніцтва, але ж яны наогул невядома куды знікаюць. Другое цікаўнае пытанне, куды трапляюць грошы ад прыватызацыі? Ва ўсіх цывілізаваных краінах з іх і вядзецца падтрымка прадпрымальніцтва. Дзяржава прадае аб'ект у прыватныя рукі, зарабляе з гэтага пэўныя грошы, якія пазней даюцца прадпрымальнікам у выглядзе крэдыту, а праз некаторы час вяртаюцца ў павялічаным памеры ў дзяржаўны бюджэт праз падаткі. У Беларусі гэтыя грошы проста праядаюцца.

***— Як Вы мяркуеце, што чакае нашых прадпрымальнікаў у бліжэйшы час?***

— Калі хутка не адбудуцца змены ў падыходах да айчыннага прадпрымальніцтва, нашых прадпрымальнікаў выцесняць прадпрымальнікі іншых краінаў. Нам нават не так небяспечныя расійскія інвестыцыі, хаця многія беларускія прадпрыемствы ўжо зараз можна купіць вельмі танна, што і пачынае адбывацца. Небяспеку ўяўляюць расійскія тавары, якія могуць абрынуцца на Беларусь вялікім патокам. А між тым, калі мы праіснуем у такіх умовах толькі год — то асноўныя стратэгічныя пазіцыі на ўнутраных рынках будуць згубленыя, і можна будзе казаць пра забойства прадпрымальніцтва Беларусі расійскімі таварамі і паслугамі.

***— Ці выконваюць свае функцыі ў нашай краіне цэнтры падтрымкі ды «інкубатары» малога прадпрымальніцтва?***

— На сённяшні дзень як інкубатары, так і цэнтры знаходзяцца ў нікчэмным стане. Згодна са сваім статусам, яны павінны дапамагаць прадпрымальнікам фінансава, прадастаўляць памяшканні, а насамрэч ім самім прыходзіцца плаціць такія ж стаўкі па арэндзе памяшканняў.

***— У Саюзе прадпрымальнікаў вы працуеце па некалькіх праграмах. Якія б найбольш хацелася выдзеліць?***

— Праграму «Вучымся бізнесу», у рамках якой ладзяцца адукацыйныя семінары, задавальняецца патрэба ў другой вышэйшай адукацыі, праводзяцца стажыроўкі за мяжой. А таксама праграму «Падтрымка і абарона», згодна з якой вырашаюцца канфліктныя сітуацыі, напрыклад, неабгрунтаваныя прэтэнзіі розных кантрольных органаў, адстойваюцца пазіцыі прадпрымальніка ў судзе, нерадольваюцца канфлікты паміж самімі прадпрымальнікамі.

**Інтэрв'ю брала**
**Вольга АНЦЫПОВІЧ**

АДУКАЦЫЯ

# Абітурыент-2000

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Сёлета з школаў Беларусі выйдзе каля 88 тысяч выпускнікоў. Пра гэта паведаміў міністр адукацыі Васіль Стражаў. Па яго словах, усе яны маюць магчымасць атрымаць далейшую адукацыю.**

У сіх выпускнікоў плануецца размеркаваць наступным чынам. Каля 18 тысяч паступіць у прафесійна-тэхнічныя вучэльні. 22-23 тысячы падлеткаў змогуць патрапіць у сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы.

На дзённае навучанне ў вышэйшых навучальных установах паступіць 42 тысячы выпускнікоў. Усяго ж у ВНУ – на стацыянар і на завочнае навучанне — будзе сёлета прынята каля 64 тысяч чалавек.

І, нарэшце, для 10 тысяч чалавек сёлета існуе магчымасць пайсці на спецыяльныя кароткатэрміновыя курсы для атрымання прафесіі. Такім чынам, па словах В.Стражава, месцаў хопіць на ўсіх.

З тых 42 тысяч выпускнікоў, што паступяць на «стацыянар», 35 тысяч прыйдзецца на дзяржаўныя ВНУ. Як сцвярджае міністр адукацыі, сярэдні конкурс па Беларусі мусіць скласці каля 2,8 чалавека на месца.

Дарэчы, міністр не бачыць вялікіх перспектываў для недзяржаўных ВНУ. Па яго словах, да 2010 года колькасць выпускнікоў у Беларусі скароціцца з сённяшніх 88 тысяч да 60-ці, і тады толькі ў дзяржаўных ВНУ будзе ў паўтара раза больш месцаў, чым жадаючых вучыцца.

Хоць да выпускных вечароў у школах яшчэ далёка, усіх будучых абітурыентаў ужо цікавяць умовы прыёму ў ВНУ. Як паведаміў Васіль Стражаў, сёлета ў правядзенні ўступных экзаменаў адбыліся некаторыя змены.



Фота ІТАР-ТАСС

Па-першае, з гэтага года ў кожным ВНУ будзе прымяняцца шасцібальная сістэма адзнакаў: 2, 3, 3,5, 4, 4,5 і 5. Цікава, што, па словах В.Стражава, міністэрства адукацыі ўжо год эксперыментуе з увядзеннем ва ўсіх школах дзесяцібальнай сістэмы адзнакаў. З 2002 года па гэтай сістэме будуць навучацца ўсе дзеці ва ўсіх школах. Аднача́сова і падчас уступных экзаменаў будзе выкарыстоўвацца такая сістэма.

Другая змена – пры паступленні на ўсе спецыяльнасці, дзе летась быў конкурс 2,5 чалавекі на месца ці вышэй, усе ўступныя экзамены ў абавязковым парадку будуць праводзіцца ў пісьмовым выглядзе. На думку чыноўнікаў з міністэрства адукацыі, гэта дазволіць пазбавіцца магчымых злоўжыванняў.

Непрыемная навіна для прыкладна 12 тысяч «медалістаў» – цяпер ім таксама давядзецца здаваць уступныя экзамены. Як паведаміў В.Стражаў, да гэтага года выпускнік, які атрымаў залаты ці срэбны медаль, пры паступленні на пэўныя спецыяльнасці быў увогуле вызвалены ад экзаменаў. Цяпер ад яго патрабуецца здаць як мінімум адзін. А ў «элітных» ВНУ кшталту Лінгвістычнага ці Эканамічнага універсітэтаў нават найлепшым вучням давядзецца здаваць усе экзамены. «Што вы хочаце, там жа паступае па тры «медалісты» на месца на некаторыя спецыяльнасці», — заўважыў міністр.

Па словах В.Стражава, сёлета пашырылася сістэма цэнтралізаванага тэставання па ўсіх школьных прадметах. Вучням патрабуецца адказаць на некалькі дзесяткаў пытанняў, абраўшы верны адказ сярод іншых. Вынікі гэтых тэставанняў залічваюцца як адзнакі, атрыманыя падчас уступных экзаменаў пры паступленні на ўсе інжынерна-тэхнічныя спецыяльнасці. Як паведаміў міністр, пакуль што ў нашых школах выкарыстоўваюцца расійскія тэсты. Аднак ужо цяпер распрацоўваюцца ўласна беларускія метадыкі. А праз дзесяць гадоў, па сцвярджэнні В.Стражава, у Беларусі ўвогуле не будзе выпускных ці ўступных экзаменаў – толькі тэсты.

Сёлета, як і летась, у ВНУ праводзіцца раздзельны конкурс пры паступленні ў ВНУ гарадской і вясковай моладзі. Па словах В.Стражава, гэта дазваляе аднавіць сацыяльную справядлівасць у беларускім грамадстве — у працэнтных суадносінах у ВНУ цяпер паступае такая ж частка вяскоўцаў (25%), колькі было выпушчана з школаў.

Міністр нагадаў, што цяпер беларускія абітурыенты маюць магчымасць на агульных умовах паступаць у расійскія ВНУ, а расіяне – у беларускія ВНУ. Па яго словах, колькасці тых, хто вучыцца ў суседніх дзяржавах, прыкладна аднолькавыя: 3.000 беларусаў вучыцца ў Расіі і наадварот. Але цяпер яшчэ дасягнутая дамоўленасць з Казахстанам і Кыргызстанам аб такіх жа ўмовах навучання. Наўрад ці беларускіх выпускнікоў прывабяць ВНУ гэтых азіяцкіх краінаў – аднак існуе верагоднасць, што выпускнікі адтуль пажадаюць вучыцца ў Беларусі. Тым болей, што атрымаць адукацыю «у Еўропе» для іх лічыцца даволі прэстыжным. Так што канкурэнцыя пры паступленні беларусаў у ВНУ, хутчэй за ўсё, будзе расці. ■

ЗЯМЛЯЦТВА

# У Лідзе — з'езд землякоў

Сяргей МАКСІМОВІЧ

**Шосты з'езд лідчукоў адбыўся 19-22 траўня ў Лідзе. Упершыню такое мерапрыемства было праведзенае ў 1991 годзе. Адпачатку яго арганізатарам з'яўляецца Таварыства польскай культуры Лідчыны. Раней з'езды праводзіліся штогод, цяпер — раз у два-тры гады.**

Сярод удзельнікаў традыцыйна пераважаюць грамадзяне Польшчы, якія паходзяць з Ліды і даўнейшага Лідскага павета. Напачатку прыязджала нямала людзей і з далёкага замежжа. Гасцей прывіталі мясцовыя суполкі нацыянальных меншасцяў — татарская, літоўская і габрэйская. Ад апошняй даў канцэрт ансамбль «Шалом». У рамках праграмы з'езда адбыліся асобна дні беларускай і польскай культур. Удзельнікі ўсклалі кветкі да помнікаў Ф.Скарыны і А.Міцкевіча, а таксама да месца, дзе фашыстамі былі знішчаныя каля сямі тысяч мясцовых габрэяў. Госці наведалі міцкевіцкія мясціны і магілы жаўнераў Арміі Краёвай.

Па сутнасці з самага пачатку з'езды мелі збольшага польскі характар, паколькі арганізатары жадалі сустрэцца з палякамі з іншых краінаў, паказаць ім, што зроблена для адраджэння польскасці. Хаця, канечне ж, Лідчына не з'яўляецца тэрыторыяй, заселенай выключна палякамі. Мясцовыя ўлады паспрабавалі надаць мерапрыемству «інтэрнацыянальны» характар. Першы дзень якраз стаў «днём беларускай культуры». На сустрэчу прыехалі вядомыя літаратары. З Гродна — паэтка Д.Бічэль, з Мінска — пісьменнік Х.Лялько. Абедзве ўрадженкі Лідчыны. Але збольшага дзень меў фальклорна-самадзейны характар, выступалі хоры і народныя ансамблі. У суседнім Навагрудку, між іншым, падобныя з'езды землякоў маюць, наадварот, беларускую «афарбоўку». ■

# «Трагедыя на Нямізе»

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Да гадавіны трагедыі ў пераходзе станцыі метро «Няміга», калі загінулі 53 чалавекі, прымеркаваны выхад у свет кнігі «Трагедыя на Нямізе. Факты, сведчанні, каментары».**

Усю працу па выданні гэтай кнігі ўзяў на сябе праваабарончы цэнтр «Вясна» пры дапамозе Цэнтра сацыяльнай абароны «Няміга-99». Ягоныя супрацоўніцы Паліна Сцепаненка і Таццяна Рэвяка – аўтары праекта і складальнікі кнігі – сабралі шмалікія паказанні сведкаў трагедыі, аповяды пра загінулых іхных родных. «Гэта дакументальная кніга – своеасаблівы помнік тым, хто загінуў, і напамін жывым. Яна напісаная не пяром, а – чалавечай бядою, горам і слязамі бацькоў», — адзначае звернутая да чытача прадмова.




У кнізе кожнай ахвяры няміжскай трагедыі прысвечаны асобны раздзел. Як лічаць стваральнікі кнігі, «кожны загінуўшы меў свой лёс, сваю будучыню, якой не наканавана было спраўдзіцца. Яны ўсе дастойныя таго, каб распавесці аб іх паасобку і падрабязна словамі іх родных, сяброў, знаёмых і тых, хто быў побач падчас іхняй гібелі».

Прэзэнтацыя «Трагедыі на Нямізе» праходзіла ў памяшканні літаратурнага музея імя М.Багдановіча 24 траўня. На яе былі запрошаныя бацькі ды іншыя родныя загінулых. Кіраўнікі «Вясны» распавядалі аб тым, як праходзяць афіцыйнае і неафіцыйнае расследаванні прычынаў падзеяў 30 траўня 1999 года. Шмат казалася аб незразумелым нежаданні ўладаў раскрываць сапраўдныя прычыны і ўвогуле праводзіць нейкае рэальнае расследаванне. «Крымінальная справа вядзецца ўжо год і будзе весціся яшчэ столькі», – мяркуюць беларускія праваабаронцы. Між тым неафіцыйнаму расследаванню стараюцца як мага перашкодзіць. Дзякуючы рознага роду забаронам дагэтуль не атрыманыя істотныя сведчанні ад міліцыянтаў і дактароў, якія працавалі на месцы трагедыі. А менавіта гэтыя сведчанні, па словах выступоўцаў, вартыя таго, каб выдаць іх дадатковым выданнем.

Кіраўнік праваабарончага цэнтра «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Волчак распавёў прысутным, што да гадавіны здарэння планавалася публікацыя ў бюлетэні «Грамадзянін і парадак» вынікаў расследавання, праведзенага гэтым цэнтрам, але нядаўна офіс гэтай арганізацыі быў начыста абрабаваны. Усе вынікі расследавання зніклі. Тым не менш цэнтру ўдалося аднавіць матэрыялы, і запланаванае выданне ўсё ж адбудзецца.

Выступалі бацькі загінулых. Іх словы былі прасякнутыя глыбокім смуткам. Кіраўнік Цэнтра сацыяльнай дапамогі «Няміга-99» Наталля Навакоўская, чыя дачка загінула 30 мая, падчас выступу не ўтрымала слёз. Разам з ёй плакалі ўсе прысутныя родныя ахвяраў трагедыі. Прайшоў год, гора іх не памяншаецца, хутчэй наадварот, узрастае ад усведамлення таго, што адбылося.

«Трагедыя на Нямізе» нагадвае ўсім нам аб адказнасці, якую наклала на дзяржаву, на грамадства, на кожнага сумленнага чалавека няміжская трагедыя ў Мінску 30 траўня 1999 года. ■


Фота Ул. ШЛАПАКА

КІНО

## Кінадакументалісты ў пошуках грошай і Belvedere

Аляксей СТАЎСКІ

Відэакасета з трыма новымі беларускімі дакументальнымі фільмамі была прэзентаваная ў выхадныя ў штабкватэры БНФ. Рэжысёры Алег Дашкевіч і Ірына Волах прадставілі гледачам тры новыя свае працы. Першы з іх – фільм «Простыя гісторыі», які расказвае пра праблемы і турботы перасяленцаў з зоны, пацярпелай ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, цяпер жыхароў мінскага мікрараёна «Малінаўка». Гэты фільм, як і наступны, «Рыцары мары», зняты Алегам Дашкевічам. У другім творы распавядаецца агульнавядомая на Беларусі гісторыя пра двух хлапцоў, Шыдлоўскага і Лабковіча, якія напісалі на сценах будынкаў антыпрэзідэнцкія надпісы, за што іх на розныя тэрміны ўпяклі за краты.




Арыгінальна пастаўлены паўдзесяцітроххвілінны фільм Ірыны Волах «У пошуках *Belvedere*». *Belvedere* – гэта такое месца на зямлі, якое некаторыя шукаюць усё жыццё... Дзеянні карціны разварочваюцца на фоне сеанса тэатра-батлейкі, дзе Цар Ірад «гуляе» ў сучасныя палітычныя гульні. Тым часам прыводзяцца прыклады з жыцця беларускага грамадства, у якіх сведкі і героі пацвярджаюць, што ўсё, паказанае ў батлейцы, якім бы абсурдным яно ні здавалася, прысутнічае ў цяперашняй Беларусі.

Пасля заканчэння прагляду ў залі адбылася гутарка гледачоў з рэжысёрамі, у якой апошнія падзяліліся планамі і задумамі і паскардзіліся, што, на жаль, на рэалізацыю іх няма дастатковых фінансавых сродкаў.

Даведацца пра набыццё касеты з трыма фільмамі можна пакуль што толькі ў сядзібе БНФ і штаб-кватэры Таварыства беларускай мовы. ■

# Вінаватых у шведскай «Нямізе» знайшлі і судзяць

Паліна СЦЕПАНЕНКА

**НАША СВАБОДА ў нумары за 24 сакавіка друкавала матэрыял «Шведская Немига», пра трагедыю ў горадзе Гётэборгу, дзе падчас пажару на дыскатэцы загінулі 63 маладыя чалавекі. Гэты матэрыял працягвае трагічную тэму.**

8 чэрвеня 2000 г. у Швецыі, у горадзе Гётэборгу, будзе вынесенае судовае рашэнне па справе чатырох хлопцаў, якія абвінавачваюцца ў тым, што 30 кастрычніка 1999 года падпалілі дыскатэку. У пажары загінулі 63 чалавекі ўзростам ад 14 да 20 гадоў, 250 атрымалі апёкі і траўмы рознай ступені цяжкасці.

Першапачатковая версія, якая абляцела розныя сродкі масавай інфармацыі ва ўсім свеце, – дыскатэку падпалілі неанацысты, бо ў агні загінулі ў асноўным дзеці эмігрантаў (нават дзіця адной жанчыны родам з Беларусі). Неанацыстаў у Швецыі хапае, таму версія была лагічнай, але не пацвердзілася. Праз год пасля трагедыі за дапамогу следству дзяржава паабяцала тры мільёны шведскіх крон (каля трохсот тысяч долараў). У выніку на лаве падсудных апынуліся чатыры хлопцы іранскага паходжання.

У Швецыю яны прыехалі з Ірана разам са сваімі бацькамі на пачатку 90-х. Цяпер двум з іх па 19 гадоў, іншым — 18 і 21 гадоў. Увечары 30 кастрычніка 1998 года яны хацелі прайсці на дыскатэку без квіткоў, адмаўляліся плаціць, паводзілі сябе нахабна.

Калі трапіць на дыскатэку не атрымалася, захацелася адпомсціць... Юнакі падышлі да чорнага ўваходу і кінулі там падпаленую паперу. Пачаўся пажар. Цяпер чатырох іранцаў абвінавачваюць на ўмысным забойстве дзесяткаў людзей. Падсудныя прызнаюць, што здзейснілі падпал, але кажуць, што «не хацелі ахвяраў» і «не думалі, што могуць загінуць людзі». Іх абараняюць вядомыя ў Швецыі адвакаты, якія таксама сцвярджаюць, што іх падабаронныя не мелі плана наўмыснага забойства. Судовы працэс над затрыманымі пачаўся вясной 2000 года, у ім прыняло ўдзел шмат людзей – каля 300 сведкаў і 250 сваякоў загінулых. Пакуль суд не прызнаў віну чатырох эмігрантаў з Ірана, у шведскай прэсе не называюць сапраўдныя імёны падсудных, а замест фотаздымкаў газеты друкуюць чорныя профілі. ■

**Па матэрыялах праваабарончага цэнтра «Вясна»**

# Літва мяркуе прыгадаць Расіі акупацыю

Кірэй МАНУЙЛАЎ

**Літоўскі парламент распачаў працэдуру разгляду законапраекта аб кампенсацыі за паўстагоддзя савецкай акупацыі. Ініцыятарам з'яўляецца колішні прэзідэнт, а зараз спікер сейма Вітаўтас Ландсбергіс.**

Як заявіў Ландсбергіс, кампенсацыі за страты падчас акупацыі цяперашні і наступныя літоўскія ўрады мусяць патрабаваць ад праваспадкаемкі колішняга СССР – Расіі. У прыватнасці, дадзены законапраект прадугледжвае, што яна павінна стварыць спецыяльны фонд для вяртання на радзіму высланых у Расію за савецкім часам літоўскіх грамадзянаў альбо іх нашчадкаў. Тым больш што, уступаючы некалькі гадоў таму ў Савет Еўропы, такія абавязальніцтвы – спрыяць працэсу рэпатрыяцыі ў прыбалтыйскім рэгіёне – расійская дзяржава на сябе ўзяла. Разам з тым, як мяркуецца, ад Расіі запатрабуюць кампенсаваць шкоду, нанесеную савецкімі войскамі, калі тыя размяшчаліся на тэрыторыі Літвы, а таксама аддаць колішнія літоўскія пасольствы ў Парыжы ды Лондане і ўнёскі ў «Знешбанку».

Большасць літоўскіх парламентарыяў, а гэта кансерватары і хрысціянскія дэмакраты, гэтую заканадаўчую ініцыятыву падтрымліваюць. Таму сеймам яна хутчэй за ўсё будзе ўхваленая. Невядома толькі, ці будзе законапраект падпісаны прэзідэнтам Валдасам Адамкусам, і тое, якім чынам адрэагуюць на яго з'яўленне, а тым больш на ператварэнне ў закон у Крамлі.

Аднак прэцэдэнт, здаецца, Літва ўжо стварыла. І ў будучым можна чакаць, што ў дзвюх прыбалтыйскіх рэспубліках і нават у краінах СНД таксама ўсур'ёз загавораць пра кампенсацыю эканамічных і палітычных наступстваў ад савецкай і расійскай прысутнасці на сваіх тэрыторыях.

Што да Беларусі, то падобнай да літоўскай кампенсацыі за савецкую акупацыю нам вымагаць не выпадае. Таму што наша краіна сама з'яўлялася складавай часткай СССР ад першага дня ягонага заснавання. А вось вяртання вывезеных з беларускай зямлі за некалькі стагоддзяў каланізацыі і русіфікацыі разнастайных нацыянальных каштоўнасцяў (дарэчы, на сённяшні дзень у Беларусі ад нашага культурніцкага і гістарычнага скарбу засталася толькі прыкладна дваццатая частка) мы павінны патрабаваць як мага настойліва. Да месца ўзгадаць, што Беларускі фонд культуры, рэалізуючы праграму «Вяртанне», выпускае аднайменныя зборнікі, дзе праблема і змест вывезеных у музеі і бібліятэкі Расіі з 1772 па 1917 год культурных каштоўнасцяў падаюцца вельмі дэталёва. Гэта і кнігазборы, рэчы дэкаратыўнага мастацтва, жывапіс, скульптура, каштоўныя рэчы са скарбаў, архівы (прыкладам, Літоўская метрыка, забраная з нясвіжскага замка Радзівілаў). Пакуль Расія ніяк не рэагуе на свой абавязак вярнуць Беларусі нарабаванае з 1772 па 1939 гады. ■


Нясвіжскі замак. Тут да 1772 года захоўваўся наш дзяржаўны архіў — Літоўская метрыка

ПАМЯЦЬ

## Германская прэмія імя беларускай журналісткі

Марат ГАРАВЫ

Для маладых журналістаў і гісторыкаў Германіі заснаваная штогадовая прэмія імя вядомай беларускай пісьменніцы і журналісткі Ганны Краснапёркі.

Яна памерла 2 мая 2000 года, у дзень Халакосту.

30 гадоў Ганна Краснапёрка прапрацавала карэспандэнтам газеты «Піянер Беларусі», напісала тры кнігі. Яе кніга ўспамінаў пра мінскае гета «Лісты маёй памяці», выдадзеная ў 1984 годзе «Мастацкай літаратурай», прынесла пісьменніцы вядомасць не толькі на радзіме, але і за яе межамі. У 1989 годзе гэтая кніга была перакладзеная на рускую мову і з уступным словам Васіля Быкава апублікаваная ў часопісе «Дружба народов», а потым і ў Германіі, дзе вытрымала чатыры выданні. Урыўкі з кнігі друкаваліся ў ЗША, Польшчы і Галандыі.

Ганне Краснапёрцы прысвечаная і экспазіцыя музея ў прыгарадзе Берліна Карлсхорсце. Ініцыятарам заснавання прэміі імя Г.Краснапёркі выступіў прафесар Берлінскага свабоднага універсітэта Ёханэс Шлоотц. Мяркуецца, што імянная прэмія будзе фінансавацца фондам Карла і Ільзы Бюзінгаў. Гэты фонд Ільза Бюзінг заснавала ў памяць пра мужа, які загінуў у Беларусі ў 1944 годзе. Фонд заахвочвае гуманітарныя кантакты студэнцкай моладзі Беларусі і Германіі. Па задуме ініцыятараў, уручэнне прэміі маладым журналістам і гісторыкам будзе адбывацца штогод 2 траўня. ■

